Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 15 650.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ

Пятніца, 13 лютага 1998 г. № 13 Кошт свабодны

## СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

### Прэзідэнцкі дэсант

**Пазаўчора Лукашэнка паляцеў у Японію. Пра свае жаданне наведаць Алімпіяду ў Нагана ён прызнаўся толькі ў сераду — і то замежным журналістам з часопіса «Деловые люди».**

Як нам паведамілі ў прэс-службе беларускага МЗС, праграма візіту прэзідэнта ў Японію ўдакладняецца, але ўжо вядома, што Лукашэнка можа там прабыць да 23 лютага. Дзіўна: пратаколы замежных паездак кіраўнікоў дзяржаваў выяўляюцца па дыпламатычных каналах загадзя.

Па некаторых звестках, міністр замежных справаў І.Антановіч накіроўваў свайму японскаму калегу ліст з просьбай арганізаваць для Лукашэнкі сустрэчу з прэм'ер-міністрам гэтай краіны. З Токіо адказалі, што сустрэчы кіраўніка японскага ўрада распісаны на год наперад. Тым не менш, Лукашэнка не траціць надзеі на сустрэчы з японскім кіраўніцтвам.

Зрэшты, сам Лукашэнка сказаў, што пытанні эканамічнага супрацоўніцтва з Японіяй лічыць «другаснымі». Галоўнае — алімпійскі спорт. Ён паведаміў, што ўважліва сочыць за Гульнямі па тэлеканале *Eurosport* — не толькі як прэзідэнт Беларусі, але і як прэзідэнт НАК. А рашэнне накіравацца ў Японію двойчы прэзідэнт, па яго ных словах, прыняў пасля перамогаў нашых хакеістаў над зборнымі Францыі і Германіі.

Мэтай паездкі, па словах Лукашэнкі, стануць перамовы з кіраўнікамі алімпійскіх камандаў Расіі і іншых краінаў «па пытанні ўзаемадзеяння ў сферы спорту». Як старшыня Вышэйшага савета беларуска-расійскага саюза, сваёй прысутнасцю ён збіраецца дапамагчы здабываць медалі не толькі нашым, але і расійскім спартоўцам.

Хоць, каб сустрэцца з расійскімі спартсменамі, неабавязкова ляцець ажно ў Японію: у Маскву і бліжэй, і танней. Відавочна, што беларускаму прэзідэнту вельмі хочацца трапіць туды, дзе збіраецца сусветны бамонд — няхай сабе і не палітычны.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

### Штраф не спыніць Ірыну Халіп

**Пазаўчора суддзя Цэнтральнага раённага суда Мінска Анатоль Барысёнак асудзіў в.а. рэдактара газеты «Имя» Ірыну Халіп да штрафу ў памеры 200 тысячаў рублёў.**

І.Халіп абвінавачвалася ў наўмысным нанясенні лёгкіх цялесных пашкоджанняў старшаму следчаму пракуратуры Цэнтральнага раёна Валянціну Магарылу. Першапачаткова супраць І.Халіп узбуджалася нават крымінальная справа. У судзе І.Халіп і В.Магарыл выклалі свае версіі інцыдэнту, што адбыўся 17 лістапада 1997 года. У той дзень следчы Магарыл паведаміў, што спыніў расследаванне справы аб жорсткім збіванні І.Халіп і яе бацькі супрацоўнікамі міліцыі падчас дэманстрацыі 2 красавіка 1997 года. Па словах І.Халіп, следчы даваў зневажальныя каментары. Яна не адмаўляла, што дала В.Магарылу аплявуху, аднак вінаватай сябе не лічыць.

Пасля вынясення прысуду І.Халіп заявіла журналістам, што не раскайваецца ў сваім учынку. «Я думаю, што нават суддзя быў у глыбіні душы са мною згодны. У адваротным выпадку пакаранне было б іншым, больш жорсткім», — сказала яна. І.Халіп таксама паведаміла, што будзе і далей дабівацца справядлівасці па фактах збівання дэманстрантаў міліцыяй 2 красавіка 1997 года.

*БелаПАН*

## Апошні герой

**Усевалад РАГОЙША**

Сёння — юбілей Пятра Машэрава, яму споўнілася б 80 гадоў. Зрэшты, пасля таго як чалавек пайшоў з зямнога жыцця, падлік гадоў не мае асаблівага значэння. І не вельмі істотна, у які дзень адзначаць гэты гіпатэтычны юбілей: у лютым 1918 года, калі ў вёсцы Шыркі Сенненскага павета нарадзіўся хлопчык Пятро, якраз мяняўся каляндар, стары стыль пераводзіўся на новы, і беларускія энцыклапедычныя даведнікі падаюць дату нараджэння Пятра Машэрава па-рознаму — і 13 лютага, і 26-га.

Пакінем гэты клопат архіварыусам і энцыклапедыстам. Чалавека няма, яго не вернеш. Аднак вакол імені Машэрава сёння вельмі шмат шуму і мітусні. Афіцыйная прапаганда падае Пятра Машэрава як найслаўнейшага сына беларускага народа, якому павінны быць удзячны сённяшнія і наступныя пакаленні. І хочацца разабрацца, чаму і за што. Хоць зрабіць гэта цяжка: грамадская памяць пра Машэрава трымаецца на міфах. «Ён быў добры. Калі Машэрава праслаўляюць — значыць, ёсць за што», — мы «павінны быць удзячныя» — пачуў я разважанні незнаёмага мужчыны сярэдняга веку. «Гэта, здаецца, быў нейкі кіраўнік савецкіх часоў», — паспрабавала адказаць на маё пытанне пра Машэрава 20-гадовая студэнтка універсітэта, а 4 яе сяброўкі толькі няўпэўнена паціснулі плячыма.



*Генеральны сакратар ЦК КПСС Леанід Брэжнеў (злева) і Пётр Машэраў у аэрапорце.*

### Герой

Няма нічога дзіўнага, што гэтыя дзяўчаты не ведаюць пра Машэрава. У 1980 годзе, калі ён загінуў, яны былі яшчэ зусім дзеці, толькі-толькі вучыліся гаварыць. Акрамя таго, маладое пакаленне мае іншыя арыенціры. І рэч не проста ў адрозненні ідэй, светапогляду, прыярытэтаў. Сённяшняя моладзь выбірае і любіць **куміраў**, а з Машэрава стараюцца зрабіць **героя**.

Гэта лагічна. Большасць нашага грамадства — зноў-такі. незалежна ад светапогляду — выхаваная паводле савецкіх прынцыпаў, сярод якіх герой і геройчнае займалі вельмі важнае месца. Пётр Машэраў выдатна падыходзіць на ролю героя. Ён змагаўся з ворагамі за вызваленне роднай зямлі ад фашыстаў, прычым быў не кадравым ваенным, а партызанам. У масавай свядомасці (ці, правільней, падсвядомасці) гэта выклікае большы давер і павагу: ваяваў не паводле загаду начальства, а па добрай волі. А што была для беларусаў апошняя вайна — згадваць залішне.

«Ён ваяваў не дзеля кар'еры. Ён ніколі нічога не рабіў дзеля кар'еры, сябе не шкадаваў», — гаварыў у свой час пра Машэрава ягоны баявы таварыш, партызанскі сябра. Відаць, гэта была праўда, як праўдаю было і тое, што многія ў савецкі час ваявалі «для кар'еры».

Ён увесь свой шлях прайшоў у Беларусі: ад вясковага настаўніка — і да галоўнага чалавека ў БССР, першага сакратара ЦК КПБ. Пасля яго першыя сакратары мяняліся хутка і незаўважна — Кісялёў, Слюнькоў, Сакалоў... Ён быў на гэтай пасадзе доўга — і яго паспелі запомніць некалькі пакаленняў.

### «Свой хлопец»

У савецкія часы было не прынята ў такім фамільярным тоне выказвацца пра кіраўнікоў высокага рангу, але пра Машэрава сапраўды гаварылі як пра чалавека простага і сціплага, «з народа». Беларускае тэлебачанне любіла паказваць, як першы сакратар ЦК КПБ Пётр Міронавіч Машэраў, моцна трымаючы касу ў руках і кладучы шырокія роўныя пракосы, ідзе па сенажаці. Іншы кадр — Машэраў стаіць у спелым жыце, і поўныя каласы даходзяць яму да грудзей — друкаваўся ў газетах і палітінфармацыйных брашурах.

(Працяг на стар. 4)

## Арыштавалі дэпутата Клімава

**У сераду быў арыштаваны і пасаджаны ў следчы ізалятар адзін з найбуйнейшых прадпрымальнікаў Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савета Андрэй Клімаў.**

Апазіцыйная дзейнасць і бізнес — заняткі ў сучаснай Беларусі небяспечныя. Займацца адначасова і тым, і другім — небяспечна ўдвая. 32-гадовы Андрэй Клімаў гэта рабіў. Яго жорсткая пазіцыя ў перадрэферэндумных баталіях запомнілася. І запомнілася перш за ўсё таму чалавеку, які нічога не забывае і сваім супрацоўнікам не даруе. Пасля перавароту ў лістападзе 96-га пачаліся пастаянныя праверкі прадпрымальніцкай дзейнасці Клімава і штрафныя санкцыі. Каля года таму быў арыштаваны яго памочнік (выпушчаны з-за кратаў толькі нядаўна, 5 лютага). Праз тыдзень пасля гэтага ў «турэмнай вахце» яго змяніў сам Клімаў.

Затрымлівалі Клімава супрацоўнікі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю гарадскога ўпраўлення ўнутраных справаў. З 6-й гадзіны раніцы яны зрабілі засаду ў двары дома па сталічнай вуліцы Жукоўскага, дзе жыве А.Клімаў. Звернем увагу: справаю заняўся аддзел не па эканамічнай, а менавіта па арганізаванай злачыннасці, як быццам Клімаў верхаводзіць бандай. У 8:30 Андрэй выйшаў на работу разам з жонкай Тацццянай — і разам з ёю быў затрыманы.

Ніякіх тлумачэнняў пры затрыманні не далі. Пра тое, што інкрымінуецца мужу, Тацццяна даведалася з пастановы на вобыск, падпісанай пракурорам г.Мінска Купрыянавым. Гаворка ідзе пра арт.151 ч.2 Крымінальнага кодэкса: «Парушэнне парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці», за што можна атрымаць ад 3 да 7 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці або штраф з магчымай забаронаю займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю.

Па словах Тацццяны Клімавай, канкрэтным напаўненнем гэтага артыкула ў дачыненні да Андрэя стала тое, што ён нібыта пабудаваў некалькі дамоў без наяўнасці ліцэнзіі. «На самой справе ліцэнзія ёсць, усе папры аформленыя належным чынам», — сцвярджае Тацццяна.

Гэтая гісторыя мае не толькі дэтэктыўны, але і, можна сказаць, шэкспіраўскі сюжэт. Рэч у тым, што сярод «незаконных» будынкаў фігуруе і дом № 7 па вул.Лодачнай. Т.Клімава ахарактарызавала яго як «найлепшы, найбольш камфортны дом у краіне» і паведаміла, што ў доме ўжо ўсё падрыхтавана (нават мэбля завезеная) да важнай падзеі, прызначанай на 20 лютага: засялення туды... Лукашэнкі і некаторых ягоных памагатых. Зададзімся пытаннем: якім чынам дом, загадзя прымеркаваны для кіраўніка дзяржавы, заказ на які афіцыйна рабілі ўладавыя структуры, мог быць пабудаваны без наяўнасці ліцэнзіі?

Зрэшты, афіцыйнае абвінавачванне А.Клімаву яшчэ не прад'яўлена. Следчы С.Салькоў, які вядзе справу, паведаміў Тацццяне, што гэта будзе зроблена сёння, 13 лютага. Таму не выключна, што на дадзены момант «склад злачынства» Клімава ўжо і змяніўся. Праз 4 гадзіны пасля затрымання ў кватэры Клімава зрабілі вобыск. Былі забраныя тэлевізар і радыёапаратура, а на маёмасць накладзены арышт. Вобыск працягваўся больш за 2 гадзіны.

У другой палове дня Тацццяна адвезла мужу харчовую перадачу, якую той адмовіўся прыняць. З гэтага, відавочна, вынікае, што А.Клімаў абвясціў галадоўку.

У нашых дзікунскіх умовах прадпрымальнікі не тое што не лезуць у вялікую палітыку — часцяком яны нават баяцца даваць рэкламу ў незалежную прэсу. Клімаў, апынуўшыся ў Вярхоўным Савеце, мог бы спакойна лабіраваць уласныя інтарэсы, а пасля «рэферэндуму» сесці ў «палату» і рабіць там тое ж самае. З камерцыйнага пункту гледжання паспехі былі б практычна гарантаваныя, бо, як вядома, найбольшыя прыбыткі ў нас атрымліваюць якраз тыя «акулы рынкавага сацыялізму», што маюць доступ да ўладавых структураў.

Але я ўзгадваю, як у трывожныя восеньскія дні 96-га Андрэй Клімаў сказаў мне, што зараз — гістарычны момант і яму не абыякава, што пасля скажуць нашчадкі, і нават калі ў супрацьстаянні з дыктатурай не будзе выйгрышу, усё адно ён будзе дзейнічаць так, каб за гэта самому сабе не было сорамна. Так ён і дзейнічаў. У парламенце выступаў жорстка і самааддана: з трыбуны папракаў С.Шарэцкага, што той «заключыў пагадненне з фашыстам». Называў міліцыянтаў, што выконваюць антызаконныя загады, крымінальнымі групоўкамі ў мундзірах, і заклікаў, з упэўненасцю былога супрацоўніка органаў унутраных справаў, «шукаць маёра, які будзе гатовы выканаць Канстытуцыю — такі абавязкова знойдзецца». Здарылася, што большасць дэпутатаў да барацьбы была не гатовая — але гэта не віна Клімава. Пасля перавароту Клімаў актыўна супрацоўнічаў у складзе спецыяльнай камісіі ВС на чале з В.Ганчаром, падпісаў заключэнне камісіі аб наяўнасці ў дзеяннях Лукашэнкі прыкметаў злачынства і з патрабаваннем імпічменту.

Андрэя Клімава арыштавалі, нягледзячы на ягоную недатыкальнасць як дэпутата Вярхоўнага Савета.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

**ЗАЎТРА, 14 ЛЮТАГА, Малады Фронт праводзіць у Мінску шэсце і мітынг. Акцыя прымеркавана да Алімпійскіх гульняў у Нагана і свята закаханых (дня святога Валянціна). Мінгарвыканкам даў дазвол на праводзенне маніфестацыі. Шэсце пачнецца ў 16:30 ад плошчы Я.Коласа.**

**З 14 ПА 16 ЛЮТАГА прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі праводзяць у Мінску ў скверы на вул. Гарадскі вал пікеты ў падтрымку Хартыі-97 і ў знак пратэсту супраць парушэння ў Беларусі правоў чалавека.**

**ЯК ПАВЕДАМІЛА міністэрства статыстыкі, колькасць насельніцтва Беларусі на 1 студзеня 1998 г. склала 10 млн. 203 тыс. чалавек, скараціўшыся на 33 тысячы чалавек. Ужо пяты год нараджальнасць у нашай краіне скарачаецца, а смяротнасць нарастае. Спецыялісты прагназуюць, што на працягу бліжэйшых 13 гадоў колькасць насельніцтва Беларусі зменшыцца яшчэ на 745,5 тыс. чалавек.**

***(Матэрыял на гэтую тэму змешчаны на стар. 3)***

# Урад хаваецца за рысу беднасці

**Прэзідыум Савета Міністраў Беларусі адобрыў праект Закона «Аб пражытачным мінімуме ў Рэспубліцы Беларусь», супраць якога неаднаразова выступалі прафсаюзы.**

Законапраект робіць паняцце «пражытачны мінімум» базавым і стварае прававую аснову для яго выкарыстання ў сацыяльнай палітыцы. Гэты нарматыў (ён таксама называецца «рысай беднасці») існуе і цяпер, аднак носіць неабавязковы характар і выкарыстоўваецца пераважна ў статыстыцы. Да катэгорыі «за рысай беднасці» ў Беларусі адносяцца грамадзяне, даходы якіх не перавышаюць 60% ад мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ).

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі неаднаразова выступала супраць увядзення нарматыву «пражытачны мінімум». Прафсаюзы лічаць, што ў гэтым выпадку значна абмяжоўваецца прымяненне паняцця «мінімальны спажывецкі бюджэт». Пры гэтым прафсаюзы адзначаюць, што МСБ распрацоўваецца спецыялістамі з улікам так званага «спажывецкага кошыка» — збалансаванага набору тавараў, мінімальна неабходных для нармальнай жыццядзейнасці чалавека. Такім чынам, МСБ фактычна з'яўляецца пражытачным мінімумам для грамадзян працаздольнага ўзросту, а ўвядзенне новага сацыяльнага нарматыву — гэта спроба закамуфляваць рэальны стан справаў.

*БелаПАН*

# Перш-наперш яны хочуць жыць

**На IV пленуме Рэспубліканскага савета прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці адбылася жорсткая дыскусія паміж прадстаўнікамі камітэтаў прадпрыемстваў і наймальнікаў.**

Беларускія прафсаюзы ўжо каторы год спрабуюць вырашыць пытанні заработнай платы так, каб на гэтую зарплату можна было пражыць. Вось і цяпер прафсаюз радыёэлектроншчыкаў спрабуе падпісаць тарыфнае пагадненне, каб да лета сярэднемесячны заробак павысіўся не менш чым да 120%, а да канца года — да 140% мінімальнага спажывецкага бюджэту.

Па словах старшыні рэспубліканскага прафсаюза Генадзя Фядыніча, наймальнікі лічаць патрабаванні залішне жорсткімі. Але ж гэта той рэальны мінімум, з якім можна пагадзіцца. Куды ж адступаць: 36% працаўнікоў галіны летась мелі заробак ніжэй за рысу беднасці — гэта значыць менш за 60% мінімальнага спажывецкага бюджэту. Нельга больш прынізіць чалавека, чым змусіць яго пакідаць сваіх дзяцей галоднымі.

Выступаючы ад імя наймальнікаў, Віктар Емяльянаў, прэзідэнт асацыяцыі «БелРіЭП», неасцярожна заўважыў, што прафсаюзы ўсё больш і больш патрабуюць, а на самой справе «чалавек працы даўно развучыўся працаваць». Лепш бы ён гэтага не гаварыў... Чалавек працы прыходзіць на завод не таму, што любіць працаваць, а таму, што хоча жыць. А задача кіраўніка ў тым, каб загрузіць яго работай, наладзіць вытворчасць і збыт прадукцыі. Калі ж кіраўнік гэтага не хоча ці не ўмее — то хай не мучыцца, а шукае сабе справу па сілах.

Узаемныя прэтэнзіі ў бакоў ёсць, і яны абвастраюцца. Але ж нельга не заўважыць, што і ў тых, і ў другіх амаль адсутнічае свабода манеўру. Нават тыя вельмі нізкія пакачыкі, на якіх настойваюць прафсаюзы, не могуць быць выкананы многімі прадпрыемствамі галіны. Нягледзячы на статыстычныя паказчыкі шалёнага эканамічнага ўздыму, становішча прадпрыемстваў жахлівае. На канец студзеня запазычанасць па зарплаце ў беларускай эканоміцы склала без малога 1 трыльён рублёў.

Хто ў гэтым вінаваты — рэч больш-менш ясная. А што з гэтым рабіць — людзям працы варта моцна падумаць.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Новая хваля маладых беспрацоўных

**Беспрацоўе маладзее. Знайсці сабе занятак моладзі значна цяжэй, чым людзям, якія ўжо маюць працоўны досвед.**

Летась на Гомельшчыне на ўліку як беспрацоўныя стаялі амаль 4.000 непаўналетніх. Нягледзячы на тое, што ўлады ўстанавілі для іх спецыяльны рэжым працаўладкавання, знайсці работу ўдалося толькі 425 непаўналетнім. 507 выпускнікоў тэхнікумаў, 1.459 — прафтэхвучэльняў і 1.996 — школ дагэтуль беспрацоўныя.

Калі ўлічыць, што ў цэнтрах занятасці на ўліку стаяць толькі тыя падлеткі, якія звярнуліся туды самі, то рэальная лічба непаўналетніх беспрацоўных будзе большая. Прыкладам, у Буда-Кашалёўскім раёне 97 падлеткаў не вучацца і не працуюць, але на ўліку знаходзяцца толькі 12. Такім чынам, выходзячы з гэтай прапорцыі, агульная колькасць непрыкаяных падлеткаў у вобласці можа скласці 32.000.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# На рынку ствараецца партыя

**Гродзенскія прадпрымальнікі вырашылі прыпыніць акцыю пратэсту і аднавіць свой гандаль. Аднак агульны настрой такі: абяцанкам уладаў даваяраць нельга, трэба змагацца далей, інакш нічога не даб'ешся.**

З мітынгам, які планаваўся на 15 лютага, вырашылі пакуль пачакаць — да канца месяца. Затое на сходзе быў створаны абласны саюз прадпрымальнікаў, прысутныя 700 чалавек прагаласавалі за яго адзінадушна. Наступным лагічным крокам стала дыскусія наконт стварэння ўласнай партыі.

Старшыня прафсаюза В.Леванеўскі, які вёў сход, патлумачыў, што партыя спатрэбіцца для таго, каб вылучаць сваіх кандыдатаў на выбарах і ўплываць на палітыку дзяржавы. Ён прапанаваў выдзеліць на арганізацыйныя мерапрыемствы для яе стварэння пэўныя сродкі. «Дзяжурная назва будучай партыі — Дэмакратычная партыя прадпрымальнікаў», — патлумачыў В.Леванеўскі.

Абмеркаванне было надзвычай актыўным. Спачатку прагучала сумненне: «А ці не зарана, ці не варта пачакаць з гэтым?» Але няўсмелай жаночае адразу ж запярэчыў мужчынскі голас: «Прафсаюз нас не абароніць. Пасля мінулага сходу да мяне і да некаторых іншых ужо прыходзілі — паразмаўляць...» Высветлілася, што невядомыя прыходзілі і да старшыні прафсаюза, але не засталі яго дома.

— У нас ужо існуе 42 партыі. Арганізуем 43-ю. Што гэта вырашыць? — рытарычна пыталіся скептыкі, і дыскусія ішла далей. — Стварыць партыю, каб ісці ў парламент? Пра які парламент вы гаворыце? Яны нічога не адстаялі, іх выперлі. А якія інтарэсы адстойвае сённяшні «нацыянальны сход» — усім вядома. Нармальных, дэмакратычных выбараў у краіне быць не можа. Створым мы яшчэ адну партыю, і будзе яна «ляжаць на паліцы». Толькі грошы вялікія патрацім. Потым парткіраўнікі захочуць, каб ім аўтамабілі службовыя купілі. А прафсаюз можа ўзаемадзейнічаць з любой партыяй.

— Тут шмат у чым ёсць рацыя, — адрэагаваў старшыня сходу. — Але ясна, што калі ў нас не будзе сваёй партыйнай структуры, нам так ці інакш давядзецца да каго-небудзь далучацца — да БНФ або да партыі аматараў піва.

Далей гаварылася пра тое, што ні адна з партыяў не здолела сабраць у Гродне сапраўды масавы мітынг. А вось цяпер упершыню свой пратэст выказала вялікая колькасць людзей, і ўсе адчулі гэтую сілу. Таму прадстаўнікі розных палітычных рухаў з рэўнасцю і без асаблівых сімпатыяў ставяцца да ідэі стварэння прадпрымальнікамі ўласнай партыі.

Праўда, адзін з сяброў БНФ падтрымаў іншых выступоўцаў: прыватныя прадпрымальнікі сапраўды могуць стаць самай моцнай палітычнай сілай. Ва ўсякім разе, адной з асноўных партыяў, — удакладніў хтосьці іншы. Прагучала таксама прапанова сабраць у новай партыі ўсіх тых, хто напрамую залежыць ад вынікаў уласнай працы, — фермераў, прыватных лекараў, таксоўшчыкаў, — карацей, аб'яднацца «класу ўласнікаў».

Пакуль што прадпрымальнікі ў сваім змаганні супраць драконаўскіх падаткаў не перамаглі, падставаў для эйфарыі няма. Нічога ў гэтай дзяржаве не робіцца без прэзідэнта, падкрэслівалі выступоўцы, ён не мог не ведаць пра новыя падаткі. Таму трэба быць напагатове, і патрэбная партыя, без якой прадпрымальнікі «будуць марыянеткамі».

Старшыня сходу патлумачыў, што асноўнае цяпер — арганізавацца, але гэта яшчэ не значыць, што заўтра ўжо трэба будзе выходзіць з транспарантамі. Галоўнае — набіраць сілы, выпрацоўваць метады. Прынцыпова за стварэнне партыі прагаласавала абсалютная большасць прысутных. Асабліва ўразіла, як эмацыянальна сваю падтрымку выказвалі шыкоўныя жанчыны ў модных дарагіх дублёнках і натуральных футрах. Уявіць іх у партыйных шэрагах, згадзіцеся, цяжкавата: у нас пакуль іншае ўяўленне пра партыйных актывістаў.

Сход разам з тым паказаў, што сярод прадпрымальнікаў нямала сяброў БНФ, прычым палітычна яны ці не самыя актыўныя. Па-другое, выразна відаць, што кіраўнікі прадпрымальніцкага руху не збіраюцца выконваць пасіўную ролю сацыяльнай базы (або штурмавога атрада) для якой-небудзь іншай палітычнай сілы. Танчыць пад чужую дудку яны не жадаюць, іхняя мэта — гуляць сваю гульню.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Малодшы канкурэнт «Макдональдса»

На праспекце Машэрава ў Мінску, непадалёк кінатэатра «Масква» працуе сталоўка пад назвай «Хуткае харчаванне». Яна з'явілася ў межах амбіцыйнага праекта «Беларускае бістро», які, на думку беларускіх чыноўнікаў, павінен стварыць канкурэнцыю «Макдональдсу». Вынікі працы першага прадпрыемства-канкурэнта яшчэ не аналізаваліся, але ў лютым плануецца адчыніць новы пункт хуткага харчавання — і ўжо пад фірмовай назвай «Беларускае бістро».



*Дзецям у «Хуткім харчаванні» падабаецца: ежа смачная, а на сервіс яны не зважаюць.*

## «Хуткае харчаванне»

Стравы ў «Хуткім харчаванні» — традыцыйныя для беларускай кухні: дранікі, клёцкі з мясам, піражкі з бульбай, смажаная свіная галёнка ды вугар з алеем, ёсць, праўда, і вельмі шляхетныя рэчы — напрыклад, гусіны паштэцік на грэнцы. Нельга сказаць, што асартымент аж надта разнастайны, але для аматараў бульбяных страваў сапраўды ёсць чым паласавацца. Многім «Хуткае харчаванне» перш за ўсё асартыментам падабаецца — сярэдні беларускі спажывец з дзяцінства больш прызвычаены да бульбы, чым да амерыканскіх булак з катлетай.

Не скажаш, што кошты ў «Хуткім харчаванні» кардынальна ніжэйшыя, чым у «Макдональдса». Дый цяжка параўнаць — стравы прынцыпова розныя. Але па суб'ектыўных назіраннях на давядзенне арганізма да сытнасці тут трэба патраціць меншую суму, чым у канкурэнта. Дарэчы, да ведама тых, хто старанна ўлічвае кожную патрачаную тысячу: кошты аднаразовага посуду будуць асобна ўлічаныя ў вашым рахунку.

І ўсё ж традыцыі савецкага «общепита» моцна псуюць агульнае ўражанне. Персанал кепска вышкалены, хуткасць абслугоўвання на парадак ніжэйшая, чым у тым самым «Макдональдсе». У выніку — у час абедзеннага перапынку перад касамі стаяць чэргі, а зала не запоўненая і на палову. Ветлівасць супрацоўнікаў нейкая вымушаная, ненатуральная. Проста бабуля глядзець на некаторых дзяўчынак за касай — адчуваецца, што яны гатовыя скандаліць, але не маюць права: праца, трэба стрымліваць сябе. Словам, сервіс кепскі.

У «Хуткім харчаванні» бываюць так званыя «санітарныя дні», пра якія старэйшы амерыканскі брат не чуў: там спраўляюцца падтрымліваць чысціню без стварэння нязручнасцяў. «Хуткае харчаванне» працуе з 12 да 21 гадзіны, а канкурэнт і адчыняецца, і зачыняецца на некалькі гадзін пазней.

## Планы

Аднаго «Хуткага харчавання» для перамогі над «Макдональдсам» недастаткова. І ўжо напрыканцы лютага на Даўгабродскай, 14 насупраць завода імя Казлова, адчыняцца «Беларускае бістро» і фабрыка-кухня па вытворчасці паўфабрыкатаў. Як паведаміў карэспандэнту НАВІНАЎ адзін з кіраўнікоў праекта, гэты пункт свядома адчыняюць у «рабочым» раёне. Сталоўка будзе арыентаваная на працоўны люд і прадугледжвае магчымасць арганізацыі харчавання па безнаяўным разліку.

Праца фабрыкі паўфабрыкатаў, на думку кіраўнікоў праекта, дазволіць лёгка пашырыць сетку прадпрыемстваў «Беларускага бістро». Чакаецца, што напрыканцы сакавіка будзе адчынена яшчэ два — на праспекце Машэрава і па вуліцы Кірава, 8.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Брытанскія кансерватары навучаць беларускіх лібералаў

**Семінар на тэму: «Кансерватыўная палітыка ў Беларусі: ідэалогія і практыка» праведуць 14 лютага Грамадзянская партыя Беларусі і Кансерватыўная партыя Вялікабрытаніі.**

Для ўдзелу ў семінары прыбудуць вопытныя супрацоўнікі цэнтральнага офісу Кансерватыўнай партыі Вялікабрытаніі — Эндру Варні і Джэфры Харпер. Эндру Варні прымаў удзел ва ўсіх выбарчых кампаніях Вялікабрытаніі пачынаючы з 1959 года. Ён арганізатар і ўдзельнік шматлікіх семінараў, брыфінгаў і прэс-канферэнцыяў не толькі ў Вялікабрытаніі, але і ў Еўропе і Паўночнай Амерыцы. Падчас прэзідэнцкіх выбараў у Балгарыі быў міжнародным назіральнікам. Джэфры Харпер мае 36-гадовы працоўны вопыт у партыйных арганізацыях розных узроўняў. Падчас апошніх выбараў у Вялікабрытаніі ён займаў пост намесніка дырэктара выбарчай кампаніі.

**Уладзімір МІХЕЕЎ**

# Беларусы дапамаглі «Форду» выйсці з крызісу

**1.200 аўтамабіляў выраблена на аўтамабільным заводзе «Форд Юніон» у пасёлку Абчак пад Мінскам з 31 ліпеня 1997 года, калі быў запушчаны канвеер.**

З іх 1.000 складаюць легкавыя аўтамабілі «Форд-Эскорт» і 200 — мікрааўтобусы «Форд-Транзіт». Як паведамілі ў прэс-службе ЗАТ «Форд Юніон», сёлета плануецца выпусціць 6.000 аўтамабіляў. Трэба адзначыць, што днямі Дзяржаўны мытны камітэт Расійскай Федэрацыі зняў мытныя пошліны на аўтамабілі «Форд» беларускай зборкі. Аднак, адзначылі ў прэс-службе, кошты ў Расіі застануцца ранейшымі — на аўтамабілі «Эскорт» каля 13.000 долараў, на мікрааўтобусы «Транзіт» — пачынаючы з 17.000 долараў.

Адзначым таксама, што ў 1997 годзе гігант сусветнага аўтамабілебудавання кампанія *Ford* атрымала рэкордны прыбытак у памеры 6,9 мільярда долараў ЗША. Прычым за межамі ЗША *Ford* зарабіў 1 мільярд долараў, хоць у 1996 годзе было 352 мільёны стратаў.

*БелаПАН*

***Начиная с 1993 г., впервые за последние пятьдесят лет, в Беларуси отмечено абсолютное уменьшение численности населения, вызванное резким сокращением рождаемости и ростом смертности. На 1 января 1998 г. численность населения страны составила 10.203 тыс. человек и сократилась за прошедший год еще на 33 тысячи человек.***

***На перспективную численность населения Республики Беларусь будут оказывать влияние три фактора: рождаемость, смертность и механическое движение.***

*Статистика и прогноз*

# Белорусов становится меньше

## Рождаемость

В период с 1990 по 1997 гг. общий коэффициент рождаемости для всего населения Беларуси снизился на 33,1%, достигнув в 1996 г. 9,3 промилле (для сравнения: в 1950 г. был 25,5 промилле). Сейчас Беларусь входит в число европейских государств с низкой рождаемостью наряду с Бельгией, Болгарией, Германией, Грецией, Испанией, Латвией.

Как известно, и падение, и рост числа рождений определяется двумя главными факторами: числом потенциальных матерей разных возрастных групп и интенсивностью деторождений в каждом возрасте.

Первый из этих факторов зависит от численности населения и его возрастного состава. Известно, что примерно 70% всех родившихся приходится на женщин в возрасте 20—29 лет. Однако в Беларуси на начало 1996 г. женщин в этом возрасте было почти на 140 тыс. меньше, чем в 1985 г., что, естественно, сказалось на показателях рождаемости. Эта тенденция прослеживается и на перспективу. Таким образом, снижение рождаемости в значительной мере предопределяется структурным фактором.

Второй фактор определяется поведением супружеских пар, их планами иметь или не иметь детей в семье. Кризис в Беларуси повлек за собой резкое падение уровня жизни населения и его обнищание. В критической ситуации оказалась семья. По данным статистики, в 1996 г. в стране за чертой бедности находилась каждая третья семья с одним ребенком, каждая вторая — с двумя. **По сравнению с 1991 г. количество бедных в Беларуси увеличилось в 13 раз.** Таким образом, материальное положение семьи сегодня также не способствует повышению рождаемости. К этим двум факторам следует добавить чернобыльский фактор (24% опрошенных заявляют, что именно по этой причине не желают иметь детей) и эмансипацию женщин. Женщина–начальник не желает иметь много детей. Все это свидетельствует о том, что надеяться в ближайшее время на увеличение рождаемости в Беларуси нет оснований.

## Смертность

Обоснованную тревогу вызывают масштабы роста смертности. Число умерших в стране в 1990 г. составило 109,6 тыс., в 1991 — 114,7, в 1992 — 116,7, в 1993 — 128,5, в 1994 — 130,0, в 1995 — 133,8, в 1996 — 134,1 тыс. человек. Своеобразие современной ситуации в том, что **люди стали умирать более молодыми**. За 1991—1996 гг. смертность больше всего увеличилась в возрастных группах 25—29 лет — на 37,5%, 35—39 лет — на 31,0% и 40—44 лет — на 33,3%, тогда как в группе 65—69 лет — только на 28%. Резкое увеличение смертности произошло за счет случайных отравлений алкоголем (в 2 раза), самоубийств (1,7 раза), криминогенной обстановки с убийствами (1,6 раза), болезней нервной системы и органов чувств (в 1,5 раза).

Рост смертности населения Беларуси в 90-е годы происходит на фоне резкого ухудшения здоровья населения. О состоянии здоровья можно судить по росту заболеваемости, который характерен для всех возрастных групп населения, включая детей. **За последние пять лет (1991—1996 гг.) заболеваемость в стране увеличилась почти на 23%.** К моменту окончания школы у 44% учащихся выявляются хронические заболевания, у 42% —морфофункциональные отклонения и **только 14% выпускников школ Беларуси могут считаться здоровыми**. Растет детская инвалидность. На начало 1997 г. в стране состояло на учете 46,2 тыс. инвалидов с детства, 46,3% из них составляют дети-инвалиды в возрасте до 16 лет, что в 2,1 раза больше, чем в 1990 г. Указанные тенденции свидетельствуют о том, что в течение ближайших лет нет оснований ожидать быстрого перелома в состоянии здоровья населения и уровня смертности.

## Миграция

Большое влияние на демографические процессы наряду с рождаемостью и смертностью оказывает миграция населения. На протяжении 1992—1996 г. Беларусь имела положительное сальдо миграции со всеми бывшими республиками СССР. После распада СССР на свою историческую родину начали возвращаться этнические белорусы. По данным переписи населения в 1989 г., в других бывших республиках Союза белорусов проживало 2,2 млн., в том числе в России — 1,2 млн., на Украине — 220 тыс., в Казахстане — 183 тыс., в Латвии — 120 тыс., в Литве — 63 тыс., в Эстонии — 28 тыс. чел. В 1992—1996 гг. более половины объема миграции приходилось на Российскую Федерацию, на втором месте стояла Украина, из прочих выделяются Казахстан и страны Балтии. Страна притягивает беженцев и из «горячих» точек бывшего СССР: Азербайджана, Грузии, Таджикистана и др.

Приток населения из стран бывшего Советского Союза останется важнейшим источником миграционного прироста населения Беларуси и на ближайшее десятилетие. Следует ожидать миграции в страну представителей белорусской национальности из Средней Азии, Закавказья, Казахстана, Прибалтики. Это связано с выталкиванием избыточных трудовых ресурсов из указанных регионов.

Эмиграция в государства дальнего зарубежья в настоящее время не носит остропроблемного характера, как это имело место ранее, когда она искусственно сдерживалась. 1990 г. стал годом самой большой эмиграции (39,1 тыс. чел.). В следующие годы количество эмигрантов снизилось с 22 тыс. чел. в 1991 г. до 8,5 тыс. чел. в 1996 г. Государствами традиционной эмиграции являются США, Израиль, Канада, Германия, Польша, Австралия. Эмиграция грозит серьезными потерями интеллектуального потенциала страны.

**Численность населения Беларуси будет по-прежнему уменьшаться**. Согласно демографическому прогнозу, среднегодовая численность населения страны составит: в 2000 г. — 10.067,6 тыс., в 2005 г. — 9.736,2 тыс. и в 2010 г. — 9.472 тыс. чел. и сократится за 1997—2010 гг. на 745,5 тыс. чел., или на 7,3%. Уменьшение численности населения будет происходить из-за отрицательного естественного прироста, который сохранится до конца 2010 г.

***По материалам научно-исследовательского института Министерства экономики РБ***

ДАГЕРРОТИП

# Чингисхан с плутонием

**Семен БУКЧИН**

Вроде бы уже по всем сусекам поскребли. От зоркого взгляда правителева завхоза ничего не укрылось. Где какой серьезный домишко в центре столицы за хорошие доллары толкнуть арендаторам, где приличный санаторий или заповедник к рукам прибрать — всюду чувствуется хозяйская рука.

Управление делами правителя освоило страну, что называется, вдоль и поперек. Государство вроде и небольшое. Но, слава Богу, и не Эстония, которая по территории с Могилевскую область. Короче, ежели не спать в шапку, ежели повнимательнее приглядеться, да хорошенько поискать, сюрпризы неминуемы! А для этого нужно быть неутомимым, ездить по стране, встречаться с людьми, разговаривать! Люди, они ведь у нас такие, всегда подскажут, где и что лежит...

И вот, пожалуйста, совсем недавний сюрприз. Да какой! Стоило правителю приехать в давно хиреющий атомный академгородок, как тут же и доложили: у нас тут, между делом, пару тонн урана завалялось. Да не какого-нибудь, а такого, что из него можно огого чего сделать! Тот же плутоний боевой, к примеру, добыть. А уж, имея плутоний, сами понимаете, какие игрушки можно изготавливать!

И забилось у нашего правителя ретивое. Да так сильно, что он и по телевизору не удержался и более чем прозрачно намекнул: я, мол, им, физикам этим, так и сказал, чтоб работали по тем самым направлениям, да по полной, сами понимаете какой, программе. И довольно ухмыльнулся себе в усы.

Еще бы не быть довольным! Это ж теперь какие виды открываются! До сих пор Беларусь всякий обидеть мог. Что, мол, за страна такая отсталая в центре Европы? Экономика никудышная, демократией и не пахнет. Вот мы им, злопыхателям этим и недоброжелателям, и покажем теперь и экономику настоящую, и демократию в полном расцвете! Когда у тебя в руках плутоний, которым чего хочешь зарядить можно — хоть бомбу, хоть ракету, — всякий с тобой с уважением разговаривать будет. Тот же Клинтон, не говоря об этом надутом поляке Квасьневском, позволяющем себе всякие фокусы на Его, белорусского правителя, границе. Поглядим, что теперь эти пшэки запоют, когда узнают, что у них буквально под боком такое имеется, такое... Даже произнести страшно!

Теперь и Саддаму можно настоящую руку дружбы протянуть. Пускай Клинтон попробует повоевать на два фронта! И Багдад надо будет бомбить, и Сосны под Минском. Нет, на два фронта ему явно не справиться!

А уж что касается всяких международных комиссий-проверок, то тут наш правитель сто очков даже самому Хусейну даст. Не то что на порог всяких проверяльщиков не пустит, даже разговоров на эту тему вести не станет. Беларусь — суверенное государство, и с этим нужно считаться! А теперь уж, когда страна, можно сказать, вступила в «мировой ядерный клуб», с нами нужно о-о-очень осторожно разговаривать. Мы ведь и рассердиться можем! А сердитые, мы такие страшные!

...Поскорей бы, поскорей бы только эту кнопочку заветную получить. Вон за Ельциным целый чемоданчик секретный носят. А тут хотя бы кнопочку! М-а-а-а-ленькую такую... Зато сколько уважения сразу прибавится! Звонишь, к примеру, Клинтону в Белый дом, когда тот самый сладкий сон видит: «Ну что, Билл, как там у тебя дела? От девок по-прежнему отбоя нет?» А тот: «Чего это ты, Саш, в такую рань? С бодуна, что ли?» А ты ему как бы между прочим: «Да так, Биллчик! У меня, понимаешь, тут такая кнопочка завелась — нажмешь и нет тебя! Сообразил?»

Американцы, они секут хорошо. Тут и станет Клинтон уговаривать: не нажимай, мол, подожди, мы переговоры проведем, визит твой к нам на высшем уровне устроим, самые лучшие инвестиции обеспечим... Закрутится, как карась на сковородке!

Все путем пойдет. Только бы этот бывший спикер-профессор не подгадил. Как его? Даже фамилию забыл. Такой ничтожный человек... Шуше... Шушке... Этот самый Шушке, который из бывших, интервью, подлец, раздает, клевету распространяет: мол, наш уран это не тот, из которого что-то стоящее сделать можно, что это якобы так, фитюльки одни... Короче, как всегда, дискредитирует наше государство...

Надо будет устав Академии наук подкорректировать, выборы новые академиков и членкоров провести. А то ведь что получается: белорусское государство содержит за счет своего бюджета разных клеветников. Он уже и ректору университета открыто намекал: хватит, мол, профессорскую оппозицию на государственные деньги содержать. Видно, плохо до кое-кого доходит...

Пытаются, сволочи, настроение главе государства отравить, радость от *такой* находки испортить! Но, слава Богу, есть и верные физики. Те за хорошие деньги и плохой уран в хороший превратить могут. А уж деньги хорошие на такое святое дело всегда найдутся! Даром, что ли, собственный бюджет параллельно с государственным был учрежден. Так что будет у нас своя бомбочка. А с бомбочкой, оно ведь и жить веселей! Саддам, умница, это понимает. А мы чем хуже?

Когда-то Герцен назвал российского царя Николая I «Чингисханом с телеграфами». Полтораста лет прошло... И Чингисхан, соответственно духу времени, переменился. Он теперь и с Интернетом, и с плутонием... И с прочими прибамбасами. Вот и возьми его за рупь двадцать!

# Апошні герой

(Пачатак на стар. 1)

Машэраў любіў спорт, і не абы-які. Час ад часу выязджаў на Пціч пад Мінскам: там ён катаўся на водных лыжах. Акім уменнем (дый адвагай перад халоднай вадой — гэта ж не ў басейне) наўрад ці мог пахваліцца высокі партыйны і дзяржаўны дзеяч з якой-небудзь іншай рэспублікі СССР. Машэраў часта хадзіў на працу пешкі — без шапкі і ў незашпіленым паліто. Я гэта бачыў на свае вочы, бо вучыўся ў школе непадалёк дома, дзе жыў Машэраў. Яму было якіх-небудзь дзвесце метраў ад сваёй кватэры да ЦК КПБ — і ён няспешна крочыў па вуліцы Чырвонаармейскай, а нашая настаўніца казала: *«Самы вялікі начальнік, а просты чалавек, ідзе як усе простыя людзі. І ён не баіцца холаду, бо ў дзяцінстве і маладосці рабіў фізкультуру і водныя працэдуры. А вы, дзеці, робіце?»*

Дасведчаныя людзі, цэкоўскія работнікі казалі, што ўпэўненая пастава, спакойны выраз твару і ўзважаная інтанацыі голасу давала Машэраву няпроста, што ён падоўгу рэпеціруе свае выступленні перад люстэркам. Магчыма, яны яму проста зайздросцілі.

## Ён быў справядлівы

У часы Машэрава не было карупцыі. Зрэшты, у ягоныя часы проста не было такога слова, такога паняцця. «Слугі народа», розныя партыйныя і савецкія начальнікі мелі спецыяльныя магазіны, сталоўкі, паліклінікі, бальніцы, санаторыі. Туды, вядома, не пускалі «просты народ», але так было заведзена ва ўсім Савецкім Саюзе. А вось калі чалавек хацеў асабістай выгады — звыш таго, што гарантавала пасада, — гэтага Машэраў не цярпеў.

Кіраўнік буйнога будаўнічага трэста (самага славутага, які пасля вайны будаваў Мінскі трактарны завод і МАЗ) выпісаў сабе пару соцень рублёў лішняй прэміі. Машэраву стала пра гэта вядома — і на наступны дзень чалавек пазбавіўся пасады. Многія начальнікі, якія ішлі на павышэнне, павінны былі выбіраць: або новая пасада — або дача.

Дачаў Машэраў увогуле не любіў. *«Калі чалавек думае пра дачу, ён не можа думаць пра працу»*, — так нібыта выказваўся Машэраў. Акрамя таго, ён лічыў несправядлівай сітуацыю, калі адзін мае дачу, а другі — не. Ужо ва ўсім Савецкім Саюзе разгарнуўся рух дачнікаў і дзядзькі і цёткі з рыдлёўкамі ды саджанцамі штурмавалі электрычкі, а ў Беларусі было глуха. На лецішчы выдзялялі ўсяго па 4-6 сотак, дамкі можна было будаваць вельмі маленькія, толькі драўляныя, і не дай Бог было паставіць усярэдзіне печ і вывесці комін. За такое можна было дорага паплаціцца.

Пасля «Правда», галоўны орган КПСС, надрукавала артыкул пра «дачныя перагібы» Машэрава, і многія здзіўляліся: як гэта так можна пра першага сакратара ЦК — ды ў газеце?

## Пры ім было спакойна

Машэраў стаў першым сакратаром ЦК КПБ у сакавіку 1965 года — праз пяць месяцаў пасля таго, як у Маскве адбылася змена ўлады і на змену Хрушчову прыйшоў Брэжнеў. Пераадоленне вальнадумных наступстваў «хрушчоўскай адлігі» ў Беларусі праходзіла знешне спакойна. Ніводнага дысідэнта не схапілі, не пасадзілі ў турму і не выгналі з краіны, хоць, напрыклад, у Расіі такое практыкавалася шырока: дастаткова прыгадаць, як кінулі за краты «антысаветчыкаў» Сіняўскага і Даніэля і выслалі за мяжу пісьменніка Салжаніцына або музыканта Растраповіча.

Машэраў увогуле падтрымліваў людзей інтэлектуальнай працы. Ён асабіста паспрыяў таму, што выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» стала самым моцным у СССР: столькі розных энцыклапедычных даведнікаў, як у нас, не справіліся выпусціць ні ў адной савецкай рэспубліцы. Пётр Міронавіч пабудаваў Саюзу пісьменнікаў спецыяльны будынак — той самы Дом літаратара, які нядаўна забрала сабе сучасная прэзідэнцкая адміністрацыя.

Але было і іншае. Калі на Украіне пачаўся наступ на любую вольную думку і сталі жорстка шальмаваць выдатную паэтку Ліну Кастэнка — прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі вырашылі падтрымаць маладую жанчыну, якая засталася фактычна без сродкаў да існавання. Прычым вельмі проста: яны не ладзілі пікетаў, дэманстрацый, не рабілі публічных заяваў. Яны сабралі для Ліны грошы — хто колькі мог даць. Гэтую дапамогу вёз у Кіеў адзін навуковец з Акадэміі навук. Супрацоўнікі КГБ знялі яго з цягніка, грошы канфіскавалі, пасля былі доўгія допыты — у выніку гэты чалавек і некаторыя іншыя страцілі працу, затое займелі пастаянны нагляд КГБ. Але ў турму сапраўды ніхто не сеў.

Прыкладна ў той жа час беларуския партыйныя газеты, перадрукоўваючы артыкул «Прыкры твор», літаральна ніштожылі Васіля Быкава за «няправільны» паказ вайны, а мясцовыя ўлады Гродна, дзе тады жыў пісьменнік, арганізавалі «неафіцыйнае» цкаванне. Сённяшняга славутага паэта Алеся Разанава выключылі з БДУ: ён хацеў, каб яму і іншым студэнтам філалагічнага факультэта выкладалі па-беларуску гісторыю. Праўда, Быкава тады не выгналі з працы, а Разанаву далі магчымасць закончыць вучобу ў Брэсцкім педінстытуце.

І калі некаторы час таму на міжнароднай канферэнцыі ў Мінску Ліна Кастэнка казала: *«Нас аб'ядноўвае не тое, што мы выйшлі з Савецкага Саюза, а тое, што мы туды ніколі не вернемся»*, — то яна ведала, што гаворыць.

## Ён быў за Беларусь

Несумненна, Машэраў хацеў, каб у Беларусі было добра. Лепш, чым дзе-неўдзь яшчэ. Гэта было шчырае жаданне, падмацаванае верай у правільнасць сацыялістычнага шляху. *«Пётр Міронавіч заўсёды асабіста цікавіўся, як ідуць у нас справы, і заўсёды даваў усё, што трэба»*, — расказваў мне пасля смерці Машэрава тагачасны дырэктар Інстытута меліярацыі. Меліярацыя была абвешчаная прыярытэтным напрамкам, а трэст «Палессеводбуд» быў у тыя часы сапраўднай дзяржавай у дзяржаве. Пры Машэраве на Палессі пачаліся зімовыя паводкі і пясчаныя буры ўлетку, але ж ЦК КПБ надвор'ем не загадваў.

Машэраў добра ведаў, што такое сялянскае жыццё, і хацеў, каб яно было лягчэйшым. У Беларусі актыўна пачалі змагацца з «неперспектыўнымі вёскамі», сілай, гвалтам перасяляючы людзей туды, дзе ёсць школа і магазін. У Беларусі набудавалі гіганцкіх свінакомплексаў, дзе назбіралася нашмат больш гною, чым нарасло мяса, і цяпер гэтыя нечыстоты пагражаюць сапраўдным экалагічным бедствам. Дваццаць гадоў назад яшчэ не ўмелі выкарыстоўваць біягаз для ацяплення і выпрацоўкі электрычнасці. Сёння ўмеюць — але ўсё роўна ніхто не робіць.

Пры Машэраве Беларусь дасягнула ці не самага высокага ўзроўню жыцця сярод савецкіх рэспублік. Ну, можа, Прыбалтыка жыла лепш. Толькі гэтае паняцце «ўзровень жыцця» трэба і разумець па-савецку, бо, напрыклад, настаўнікі або медыкі атрымлівалі аднолькавую зарплату і ў Маладзечне, і ў Ярслаўлі — толькі ў нас была каўбаса і масла, а там — не.

*«Пасля смерці Машэрава ў магазінах стала горш*, — такую думку можна было чуць часта і паўсюль. — *Ён аддаваў у Расію толькі лішняе»*. Больш дасведчаныя людзі звязвалі збядненне беларускіх крамаў з іншым фактарам. Яшчэ пры жыцці Машэрава ў Беларусь прыязджаў Касыгін, тагачасны старшыня Савета міністраў СССР, і ён, убачыўшы тутэйшую сітуацыю, выраш ыў, што беларусы маюць занадта многа — трэба яшчэ падзяліцца са старэйшым братам. А ў 1980 годзе, калі пачыналася рэвалюцыя ў Польшчы, Крэмль прымусіў Беларусь дапамагаць усімі сіламі «польскаму пралетарыяту».

## Яго не любіла Масква

Масква сапраўды не любіла Машэрава. Многія былі расчараваныя і абураныя, што на пахаванне не прыехаў Брэжнеў — прыслалі нейкага чыноўніка. За пятнаццаць гадоў кіравання кампартыяй Беларусі Машэраў так і не стаў членам Палітбюро ЦК КПСС, інакш кажучы — яго не дапусцілі ў вышэйшую партыйную эліту.

Магчыма, маскоўскія кіраўнікі баяліся канкурэнцыі. Машэраў быў актыўны, энергічны, смелы на ўсякія эксперыменты і адносна малады. На працягу пяці гадоў пасля смерці Машэрава пайшла з жыцця практычна ўся савецкая партыйная вярхушка: але яны памерлі сваёй смерцю, Машэраў — загінуў.

За дзень да смерці Машэраў нібыта меў вельмі сур'ёзную гутарку па тэлефоне з Брэжневым. Паводле адной версіі — пра тое, што Беларусь павінна даць яшчэ больш харчоў, будаўнічых матэрыялаў ды іншых тавараў на падтрымку сацыялістычнага рэжыму ў Польшчы, але Машэраў адмовіўся. Іншыя сцвярджаюць, што Брэжнеў паведаміў: падпісаны ўказ аб пераводзе першага сакратара ЦК КПБ у Маскву — на пасаду старшыні Савета міністраў СССР. Так ці інакш, назаўтра Машэрава не стала.

## Загадкавая смерць

4 кастрычніка 1980 года ён ехаў правяраць, як калгасы капаюць бульбу. Па нейкіх прычынах міліцэйская машына аховы моцна вырвалася ўперад. Аўтамабіль Машэрава ўрэзаўся ў нагружаны бульбай грузавік, які выязджаў з поля.

Машэраў тады ўжо стала ездзіў на іншым аўтамабілі — браніраваным ЗІЛе з узмоцненай сістэмай бяспекі. Але ў апошнюю паездку ён вырушыў на старой «чайцы». За рулём сядзеў 62-гадовы ветэран вайны: магчыма, ён не здолеў належным чынам адрэагаваць на дарожную сітуацыю.

Грузавік, які стаў прычынай трагедыі, транспартаваў бульбу. Казалі, што ён нібыта некалькі гадзінаў прастаяў на ўзбочыне дарогі і крануўся з месца якраз тады, калі на высокай хуткасці стала набліжацца машына Машэрава. Суд прызнаў кіроўцу вінаватым у ненаўмысным забойстве. Ён пайшоў у турму, а ў вясковай хаце засталіся чакаць бацьку пяцёра дзяцей.

Такім чынам, у гібелі Машэрава ёсць некалькі дзіўных, падазроных супадзенняў і акалічнасцяў. І гэтая загадкавасць таксама вылучае ягоную фігуру з шэрагу іншых дзяржаўных дзеячаў, якія ў свой час кіравалі Беларуссю.

## Апошні шанец

Ушанаванне памяці кожнага чалавека, незалежна ад яго нага рангу, — справа добрая і богаўгодная. Спекуляцыя на імені — рэч непрыгожая і грэшная. Па вялікім рахунку, для сённяшніх уладаў Беларусі тыповы савецкі наменклатурны работнік Пётр Машэраў — не герой, не аўтарытэт і не ўзор для пераймання. Да яго няма шчырай павагі: у дзень юбілею прэзідэнт, які фактычна быў ініцыятарам урачыстасцяў, знаходзіцца ў Японіі. Машэраў патрэбны толькі як сімвал. Для ўладаў гэта апошні шанец хоць неяк увасобіць, увекавечыць савецкую сістэму пагляадаў і каштоўнасцяў, якая настойліва рэанімізіруецца і навязваецца афіцыйнай прапагандай.

Але і гэты варыянт загадзя пройгрышны. Не толькі таму, што цяперашняя форма дзяржаўнага кіравання ў Беларусі падобная на савецкую толькі знешне, а ўзаемаадносіны паміж людзьмі будуюцца ўжо на іншых прынцыпах. Як і ў кожнай іншай сферы, у ідэалогіі, у сімвалах павінна быць пераемнасць. Ніхто з сённяшніх кіраўнікоў не можа прэтэндаваць на месца побач з Машэравым — нават калі ён навучыцца ездзіць на водных лыжах, пачне хадзіць на працу пешкі, выпусціць з турмы палітвязняў і — не дай Бог! — стане ахвярай Крамля.

# Польша будет держать

## Таковы условия вступления в Евросоюз

**В скором времени гражданам Беларуси будет еще труднее попасть в Польшу. Новые правила въезда, вступившие в силу с января нынешнего года, — это только начало. В будущем визовый режим будет ужесточен. С чем это связано? Об этом пишет специально для нашей газеты немецкий журналист.**

**Клаус БАХМАН**

На Белостокском пограничном пункте за компьютером сидит молодой служащий, его пальцы проворно бегают по клавиатуре. Польские пограничники экипированы по последнему слову техники за счет средств ЕС и Германии, теперь у них есть спутниковая связь, телекс, телефон, факс, джипы повышенной проходимости и мотосани. После того, как «таинственные летающие объекты» не раз высаживали на территории Польши беженцев из Литвы, граница охраняется еще и при помощи вертолетов. Компьютер в считанные минуты выдает информацию: 29 января 1997 года польско-белорусскую границу пересекли 11.000 человек, 29 января текущего года — 6.000.

Кшиштоф Путра знает, что скрывается за этими цифрами. Он руководит самым большим в Белостоке и третьем по величине в Польше рынком. 3.000 продавцов зарабатывают свой хлеб, торгуя на рынке, ориентируются они в основном на покупателей из Беларуси и России. После того, как условия въезда на территорию Польши были ужесточены, многие ларьки стоят пустые. *«По сравнению с прошлым годом наш товарооборот снизился на 40–50%»*, — говорит Путра. Не лучше обстоят дела и на остальных польских базарах. В Белостоке возмущенные торговцы на этой неделе даже заблокировали пограничный контрольно-пропускной пункт. *«Если новые правила пересечения границы окажут негативное влияние на экономическое положение в приграничных районах*, — заявил один из советников премьер-министра Ежи Бужек, — *правительство рассмотрит возможность их изменения»*.

Однако, в действительности, едва ли Польша захочет пойти на попятную. Хотя новые правила не подразумевают никаких изменений в уже существующих соглашениях и законах, они являются как бы косвенными последствиями желания Польши как можно скорее вступить в ЕС. В чем причины такой позиции? Может быть, Западная Европа, как уже не раз утверждали белорусские и русские газеты, стремится изолировать Беларусь, Россию и Украину? Возможно. Однако, скорее всего, причины кроются несколько в ином.




*Польша идет в Евросоюз и вынуждена усиливать визовый режим на границе с Беларусью и другими восточными соседями.*

В 1995 году между странами, входящими в Европейский союз, было заключено соглашение о ликвидации внутренних границ, были отменены таможни, контрольно-пропускные пункты, личный досмотр. Теперь всякий желающий может попасть из Германии во Францию, переплыв через Рейн на обыкновенной байдарке или воспользовавшись электричкой, идущей из Бадена в Эльзас. Немцы приобретают во Франции дома, которые стоят гораздо дешевле, чем у них на родине, живут там, а работают в Германии. Каждый день они абсолютно легально пересекают границу.

